*Гэта енк, гэта крык,*
*што жыве Беларусь!*
*Янка Купала.*

# ЗАЛІК



**Агульнагарадзкая студэнцкая газэта** **№3** сакавік 2000

# Вакацыі па-беларуску.

**На гэтых зімовых вакацыях Задзіночаньнем Беларускіх Студэнтаў у Воршы была праведзеная беспрэцэдэнтная акцыя – “Вакацыі па-беларуску.”**

## USTUP.

Вы ня ведаеце, што такое “Вакацыі па-беларуску?” Вы першы раз пра гэта чуеце? Дык чытайце. “Вакацыі па-беларуску” – гэта чатырохдзённая акцыя, якую правяло ў Воршы ЗБС, каб зрабіць свой (і ня толькі свой) адпачынак цікавым, насычаным і …беларускім.

## DUBAL PIERSY.

Акцыя распачалася з адукацыйнага сэмінара, які прайшоў недзе ў цэнтры горада. Дарэчы, хто ня ведае, што такое адукацыйны сэмінар, тлумачу: гэта сэйшн, на які зьбіраюцца людзі з усяе Беларусі, плюс два разумных чалавекі (трэнеры). Мэтаю такіх збораў ёсьць перадача ведаў ад трэнераў да прысутных (слухачоў) на сэмінары. Гэта чымсь падобна да лекцыяў у тэхнікуме, але толькі значна цікавей і прыемней: гульні, кава, жарты… Дык вось, пасьля сэмінара, які, безумоўна, усім спадабаўся, адбылася маленечкая вечарынка. Танцы да гадзіны ночы, добрае піва, прыемная кампанія – усё спрыяла таму, каб цалавацца, абдымацца й прызнавацца адзін аднаму ў каханьні. З хворай галавой, але выдатным настроем сустрэў ЗБС ранак наступнага дня.

## DUBAL DRUHI.

Але на гэтым акцыя “Вакацыі па-беларуску” ня скончылася. Час зімовых вакацыяў, як вядома, два тыдні, таму ў канцы наступнага тыдня адбыўся працяг і ўрачыстае завяршэньне акцыі. Супэрвідовішча адбылося ў ноч з суботы на нядзелю. Распачалося ўсё з інтэлектуальных гульняў паміж трыма камандамі: “Зьвяз”(Ворша), “ЗБС” (Ворша) і “Крам”(Коханава). Акрамя таго прысутнічала шмат гасьцей і сяброў з усяе Віцебскае вобласьці, якія паказалі сябе сапраўднымі гледачамі й шчырымі балельшчыкамі. У якасьці прызоў былі скарыстаныя: калькулятар, дыскета, пакет (хадзіць у краму), туалетная папера (вядома, куды хадзіць) і інш. Не скажу, хто перамог, але, шчыра кажучы, мне падалося, што перамагла Беларусь, бо ўсё было зроблена вельмі файна, а галоўнае панаску (панашаму).

## DUBAL TRY.

Завяршылася махная акцыя “Вакацыі па-беларуску” файнаю эўрапейскаю дыскатэкай. У інтымным сьвятле залі зьліваліся пары ў час павольных мэлёдыяў. У вар'яцкіх агнёх мігцелі рукі, ногі і іншыя часткі цела, калі грымела хуткая амэрыканская музыка. Неўзабаве загучаў беларускі рок і Лявон Вольскі з калёнкі пракрычаў "Бывай!" Праўда, на яго разьвітаньне ніхто не зьвярнуў увагі і “Бывай!” быў разбаўлены “прывітаньнем” новага коханаўскага гурта. Потым зноў заля залілася маруднымі кампазыцыямі. Усе разабраліся па парах. Дарэчы, калі праанaлізаваць склад некаторых пар, дык можна было заўважыць дзьвюх дзяўчынаў, якія, нікольвек не саромячыся, таньчылі ўдзьвюх. Вось табе й каханьне ўва ўсіх яго праявах. На некаторы момант да сябе прыцягнулі ўвагу хлопец зь дзяўчынаю ў сярэдзіне залі. Хлопец плакаў па нечым страчаным, трымаючы дзяўчыну за плечы, а яна яго суцяшала й таньчыла, і зноў ён плакаў і таньчыў. А як толькі скончылася мэлёдыя, хлопец, супакоеўшыся, узьняў яе на рукі. Заля напоўнелася радаснымі крыкамі зьдзіўленьня й воплескамі. Але хлопец сышоў, сышла й дзяўчына, а дыскатэка працягвалася. Дыскатэка працягвалася доўга, доўга, доўга…

## EPILOH.

Вось так у Воршы адпачыла ЗБС. Класна, калі ў цябе столькі сяброў ды знаёмых. Файна жыць, калі вакол толькі добрыя й шчырыя людзі. Добра, калі можна адпачыць так, як гэтага хочаш ты! Добра жыць, калі добра!

*Ільля*

# Зноў два дні на стуле.

**27 і 28 лютага ў Наваполацку адбыўся сэмінар на тэму “Заканадаўства РБ аб сродках масавай інфармацыі”, на якім пабылі нашыя Аленка й Масьця.**

Пасьля бяссоннай начы, доўгай дарогі і шматлікіх прыгодаў вельмі хацелася спаць. Але нашыя вочкі расплюшчыліся, а вушкі навастрыліся, таму што Натальля Мікалаеўна вельмі цікава распавядала. Ну а чаго ж іншага можна было чакаць? Яна прафэсыйны юрыст з стажам і выдатная выкладчыца, а таму добра валодае ня толькі словамі, а і ўвагай слухачоў. У час сэмінару мы атрымалі шмат карысных ведаў.

Хаця мы й так былі задаволеныя тым, што ўжо адбылося, але самае цікавае чакала нас увечары. Мы пабачылі пастанову творчай майстэрні “Зьніч”. Іх адданасьць у час выступленьня ўражвала гзьдзіўляла. А якія ў іх галасы! Здавалася, мы апынуліся ў райскім садзе, дзе ўсе птушкі пяюць, нібы анёлы.

Пасьля сканьчэньня пастановы мы ляцелі да пакоя, як быццам на крылах чысьціні, і так хацелася засьпяваць, але што зробіш, калі ў цябе няма ні слуху, ні голасу, толькі й застаецца захапляцца іншымі.

Толькі прыйшоўшы ў пакой, мы адчулі, як баляць далоні. Запытаецеся чаму? Ды таму, што пляскалі ў далоні ад усёй душы, і так доўга, што акцёры прасьпявалі пару разоў апошнюю песьню, прэзэнтавалі ўсіх граючых, выйшлі і зноў вярнуліся, таму што пляcканьне не сканчалася).

На наступны дзень мы прыехалі дадому, але адчуваньне цеплыні й дабрыні засталося ў нас, спадзяемся, назаўсёды. І было б вельмі добра пабачыць “Зьніч” яшчэ хоць разочак. А яшчэ лепш тут, у нас, у Воршы!

*Аленка Б.*

# Слова аб палку Ігаравым (дзесяцігодзьдзю ЗБС прысьвячаецца)

Напачатку было Слова. І слова было беларускім. І патрапіла слова ў галаву Ігара. А Ігар быў студэнтам. І было ў Ігара прозьвішча. І было гэтае прозьвішча Міхно. У першы дзень выслухаў Ігар Слова ды сказаў:"Хай будзе так!". І сталася Так.

І прыйшоў на другі дзень Ігар у беларускі рух. І ўбачыў Ён, што там добра.

А на трэці дзень зьявілася думка. Думка ж была студэнцкай. І прынёс Думку Алесь. І было ў Алеся прозьвішча. А прозьвішча было Гуркоў. А думка ж была аб узмацненьні руху. І прачытаў Ігар Думку. І пагутарыў Ігар з Алесем.

І на чацьверты дзень зьявілася Ідэя. А ідэя была аб арганізацыі.

А на пяты дзень быў Вальны Сойм. І пачаў Ігар зьбіраць дружыну на Сойме. І сабраў. Але падумаў аб назове.

І на шосты дзень зьявілася назва. А назва была Задзіночаньне. І паўстала АРГАНІЗАЦЫЯ.

І на сёмы дзень паглядзеў Ігар на арганізацыю. І спадабалася яна яму. І сказаў Ігар: "КРУТА-А-А!". І пайшоў піць піва.

З той пары ЗБС-аўцы любяць піць піва. Асабліва на выходных.

Хутка казка кажацца, ды ня хутка справа робіцца! Стварыў Ігар дружыну, сабраў яе ды кажа: "Трэба новых". І прыйшлі новыя людзі. І былі сярод іх Вайцяховіч ды Салошкін. Села дружына за стол.

- Добры хлопцы сабраліся,- прамовіў Ігар. – Давайце ж вып'ем келіх кругавы, вядзерны!

Адпіў Ігар з келіху і перадаў яго Вайцяховічу. На Вайцяховічу кола і скончылася!

- Ну ты і п'еш! Ці такі ж ты моцны ў бойцы? - прамовіў Ігар і павёў сваю дружыну на пляц да Леніна.

І паднялі яны ўпершыню сьцяг дружыны і сталі лягерам на пляцы. І ўзнялі пад ахову сялянаў. А сяляне галадалі і прасілі зямлі. І быў на двары 1990 год ад нараджэньня Пана нашага Езуса Хрыста. І былі атакі барбарскіх палкоў. І была бойка, і адбіваліся да раніцы. А зранку наступіла 7 лістапада. І быў новы наступ, бо быў парад. І было супрацьстаяньне. А насупраць каля Леніна стаялі камуністы. І клікнуў Ігар: - Сябры-патрыёты, добрыя малойцы - сьвядомыя, стамілася рука рубіць! Няма больш моцы абараняцца. Дапамажыце мейсца адстаяць ды ў наступ перайсьці. Бо колькі ж можна ад ворагаў бегаць!

<u>І прыйшла падмога ад сябраў. А сябры былі з БНФ-у. І пачаўся штурм Леніна. І адступілі барбарскія палкі.</u>

Сабраліся пасьля бойкі сябры дружыны. І сказалі: "Годзе ваяваці, гэй жаўнер!". І не падабалася ім ядзерная зброя на Беларусі. І схацелі пайсьці яны й дабіцца раззбраеньня. Але ня слухалі іх. І тады кінулі кліч:

- Добрыя малойцы, хлопцы-беларусы! Гэй на вайсковыя базы, пакажам, чаго мы хочам.

І сабраліся людзі. І далучыліся яны да дружыны. І намаляваў Салошкін плякат пра сэкс-бомбу. І вывеў Ігар на сваёй пятцы знак пацыфізму. І пайшлі яны па гарадох і вёсках ды базах стратэгічных. І пачалі агітаваць. І былі мітынгі ды сустрэчы. І шмат каго з'агітавалі! І спужаліся ўсе. І пайшла пагалоска па войсках СССР-аўскіх "Нефармалы ідуць!". І пахаваліся СССР-аўцы, пазачыняліся ў казармах, завярнуліся ў белыя прасьціны й папаўзьлі на могілкі! Але не спыніла гэта дружыну. І прайшла яна па ўсёй Беларусі. І выйграла: вывелі з нашае зямлі "ядрёную" зброю. І аддалі яе Расеі. Але сказаў Ігар:

- Не хачу мірным быць. Дарма зброю аддалі! Жыві дружына сама, - і стварыў сваю арганізацыю. А назву ёй даў "Выбранецкія шыхты". І стала ягоная арганізацыя вайскова-гістарычнаю. І пайшла ў паход на Смаленск. І схацелі яны адабраць гэты горад. І пачалі адбіраць! Але не было ўжо Ігара Міхно на ЗБСе.

І засталася ад Міхно толькі ягоная пятка на фота...

А дружынаю сталі кіраваць два Зьміцеры (якія зваліся Салошкін ды Вайцяховіч). І захоўвалі яны памяць пра пачатак. І знайшлі яны сьвет-Аляксея яснае сонейка. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

---

*<u>Гістарычная даведка:</u>*

***<u>Задзіночаньне Беларускіх Судэнтаў афарміліся ў сакавіку 1990 г.</u>***

***<u>Кіруючы ворган – Рада.</u>***

***<u>У ворганах улады арганізацыя не прадстаўленая.</u>***

***<u>Папярэднікамі ЗБС ягоныя стваральнікі лічаць "Зялёны Дуб" (збройны маладзёвы аддзел Партыі беларускіх эсэраў), Саюз Беларускіх Студэнтаў (у 20-30-я гады яднаў студэнтаў Заходняе Беларусі, Нямеччыны, Чэха-Славаччаны) і Саюз Беларускае Моладзі.</u>***

***<u>ЗБС выдае газэту "Студэнцкая Думка" (аб'ём і перыядычнасьць нястальыя)...</u>***

***<u>Найбольш блізкай да ЗБС па ідэялёгіі й мэтам зьяўляецца НДПБ.</u>***

***<u>Падтрымлівае сувязі з БНФ. Па-за межамі Беларусі кантактуе са "Студэнцкім брацтвам" на Ўкраіне й "Літуанікай" у Летуве.</u>***

**Інфармацыя зь Менску.**

# Піце піва з «Пані Хідай».

*Вялікі дзякуй Надзеі за тое, што яна зрабіла магчымым гэты артыкул.*

Хлопцы гурта "Пані Хіда" граюць даволі сур'ёзную музыку (ува ўсялякім выпадку не папсу), у напрамку, як яны самі гавораць, пан-РОК. Адпаведна з гэным мы звычайна ўяўляем, што гэта сур'ёзныя людзі, якія любяць папіць "піва" і паслухаць добры рок. Але на самой справе, гэта зусім ня так.

Хлопцы з Пані Хіды з добрым пачуцьцём гумару. Аб гэтым, напрыклад, сьведчыць песьня "падает чердак". Вельмі па-майму сьмешны адпаведны кліп, раскручаны на нашым БТ зь дзіўнымі Дзедамі Марозамі, якія гулялі па горадзе зусім ня ўзімку, памятаеце?! Ну, ня памятаеце, дык і ня трэба.

Зусім мяне пераканала ў гумарыстыцэ ПаніХідаўцаў іх адказ на пытаньне: "Што найбольш запомнілася з студэнцкага жыцьця?" Хлопцы зь вясёлымі тварамі, аднагалосна і ўпэўнена адказалі: "Студэнткі". А на пытаньне, якія выступы сыгралі найбольшую ролю ў вашым жыцьці, хлопцы адказалі: "Толькі адзіны выступ — жаночыя грудзі".



На пытаньне пра склад гурта – хлопцы адказалі ўпэўнена і, як заўжды, з гумарам: "20 чалавек разам з гледачамі".

Дарэчы, пра адукацыю Пані Хіды, як яны распавялі: тры ўдзельнікі гурта скончылі пэдкаледж, два маюць мэдэцынскую адукацыю, адзін—чыгуначнік.

Нягледзячы на даволі сур'ёзна-гумарыстычны склад характару ўдзельнікаў гурта і іх адпаведныя песьні, яны сьцьвяржаюць, што найбольш часта яны сьпяваюць у сваіх лепшых песьнях пра сэкс, наркотыкі, рок-н-рол і праблемы моладзі.

Ну, і хто пасьля гэтага скажа, што Пані Хіда не маладзёвы гурт, га?!

Дык вось, шаноўнае спадарства, слухайце Пані Хіду, адзначайце іх дзень народзінаў (03.12.) , кахайце, пакуль студэнты і піце нашае піва, бо рок бязь піва — ня рок, а піва бяз року— ня піва. ***Памятайце*** пры гэтым, што **вы падтрымліваеце такім чынам айчынны беларускі пан-Рок.**

*Андрусь.*

# Мацюкацца, дык па-нашаму.



**З**гадзіцеся, браты, што вельмі часта, асабліва ў спрэчных выпадках, мы не вытрымліваем і пачынаем выкарыстоўваць увесь скарб нецэнзурнага бруду, які калісьці перахапіла вялікая Расея й пакінула нам у спадчыну ад нейкіх татара-манголаў ( дарэчы, прыгадайце, калі вы ўжывалі апошні раз у сваёй гаворцы татара-расейскі мацюк, згадзіцеся – ня гэтак даўно). Што датычыцца нас, беларусаў і Беларусі, дык кажу ўпэўнена: нашай беларускай культуры мацюкі асабліва татара–рускія неўласьцівыя. У беларусаў спакон вякоў існавала свая сыстэма зьнявагі і назова ёй – праклёны. Праклён – гэта пажаданьне жывёле ці чалавеку нечага кепскага. Вось напрыклад, можна ад старых бабуль і дзядуль пачуць такое "пажаданьне": "каб зь цябе жывога скуру зьдзерлі","каб твае дзеці тэлевізару баяліся ,"ці "каб ты сеў там, дзе дна няма".

Можна вызначыць два асноўныя тыпы праклёнаў:

1). У якіх жадаецца штосьці непрыемнае ды благое. Кшталту: "каб ты па прыску скакаў", "каб табе Бог даў дзераўляныя ногі", "каб ты свайго ценю баяўся", "каб ты голы скакаў", "ліха (трасца) табе ў бок (на галаву)".

2). Якія кажуць пажаданьне сьмерці. Кшталту: "каб цябе маланка спаліла", "каб ты рукі склаў", "каб ты ўдушыўся маленькім", "каб ты не вярнуўся", "каб ты касіў нагамі".

Яшчэ выкарыстоўваюць праклёны: "каб ты сьпяваў апошні раз", "каб ты сьпяваў у воўчых зубох", "каб цябе халера забрала". Вельмі часта да гэтых выразаў дадаюцца такія словы як: "дай Бог...", "Бог даў"...

Таму , шаноўнае спадарства, кідайце вы гэтую чужую брудную звычку мацюкацца, лайцеся панаску!

*Андрык.*

# Дзень хлеба. Дзень солі. Дзень Волі.



У Эўропе цяжка назваць яшчэ адну краіну, у якой лёс быў бы такім велічным і трагічным, як наш лёс.

Крывічы, нашы прародзічы, аднымі зь першых ува Ўсходняй Эўропе стварылі сваю дзяржаву – Полацкую.

Пазьней, у 13 ст. пачаўся новы пэрыяд разьвіцьця нашае нацыі і дзяржаўнасьці, зьвязаны з Вялікім Княствам Літоўскім. Зь цягам часу ВКЛ стала адной з самых буйных і разьвітых дзяржаваў у Эўропе. Тут ужо пад час сярэднявечча існавалі шматлікія дэмакратычныя формы грамадзкага й палітычнага жыцьця. У Гародні ў 1541г. існаваў вадаправод.

Але ўсё абарвала навала з Усходу. Як калісьці татара-манголы зьнішчылі культурную й разьвітую дзяржаву Русь, так і нашае шчасьце зьнішчылі ўсходнія дзікуны-зайздросьнікі. Яны пад прыкрыцьцём дужа вялікай братэрскай любові праглынулі нас, пазбавілі Радзімы. Потым жа пачалі гандляваць нашымі прадзедамі, адпраўляючы іх на войны за чужацкія інтарэсы. Затым раскралі нашы сьвятыні па сваіх бібліятэках і музэях. А ўрэшце занесьлі да нас азіяцкія звычкі й норавы, разбэсьцілі й сапцавалі "вялікі наш народ".

Але прыйшоў час для аднаўленьня гістарычнае справядлівасьці. Паўстаньні Т. Касьцюшкі, К.Каліноўскага, барацьба шматлікіх пакаленьняў беларускіх арганізацыяў прывяла да абвяшчэньня ў 1918 року Беларускае Народнае Рэспублікі. Першым беларускім прэзыдэнтам стаў Антон Луцкевіч. Нашая першая Рэспубліка абвясьціла сваю незалежнасьць **25 сакавіка 1918 року.**

Дзяржаўнымі сымваламі стаў бела-чырвона-белы сьцяг, герб "Пагоня" й гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Белы колер з чырвонымі стужкамі – гэта колеры Ісуса Хрыста, а, значыцца, *сымболі сьвятасьці.*

БНР існавала ў неспрыяльных умовах і з 1920 року стала знаходзіцца ў стане акупацыі. Яе ўрад – Рада БНР – дзейнічае ў эміграцыі (з 1944г. у ЗША). Зараз прэзыдэнтам Рады БНР у эміграцыі зьяўляецца Івонка Сурвіла.

Днём незалежнасьці й сувэрэнітэту Беларусі павінен лічыцца менавіта дзень **25 сакавіка 1918 року**. Тады нарадзілася вялікая надзея на вяртаньне нашага шчасьця, нашай велічы, нашае ***Волі.***

*Ільля.*

# Мая БНР

Сонца заходзіць за сумныя хмары,
Вецер гуляе у шчылінах хаты,
Носяцца думкі, носяцца мары,
Стыне разьлітая ў кубках гарбата.

Хочацца зьесьці смажанай бульбы,
Хочацца выпіць добрага піва.
Трохі ня хочацца ведаць, што будзе.
Ў роце чамусьці горкая сьліна.

Ложак памяты, дзьверы заснулі
(ты, як сыходзіла, іх зачыніла).
Болі па целе, быццам бы кулі,
Нэрвы катуюць. Сэрца прабіла...

Ўчора, здаецца, палец парэзаў.
Ты перавязвала бінтам халодным
І напявала штось з палянэзаў
Дужа працягла, досыць самотна.

Зараз мэлёдыя ўчорашняй раны
Грэе душу мне, бы ногі кілімам.
На белым біньце чырвоныя плямы:
Бог,
Надзея,
Радзіма.

*Ільля*

# Ода радасьці

Якое гэта здарэньне,
Які ж гэта вам выпадак,
Калі маладое насеньне
Парушыла ўвесь парадак?!
Хіба вы чакалі такога
Ад гэтакае малечы?
Хто даў яму тое слова,
Якое гучыць удалечы?
Дазволу яму ня трэба,
Яно сваю годнасьць мае!
Кіруецца прама на неба,
Дзе вольныя душы лунаюць.
А хто ж яму дапаможа?
А хто ж яго падтрымае?
Вы скажаце :"Потым, можа."
Аднак яно гонар мае!
Яно ўжо імкнецца высока,
Яно звысока глядзіць—
Аб краі сваім глыбока
Юнацкае сэрца баліць.

О, каб вось такім насеньнем
Засеяць усе палі,
Каб гэтакія здарэньні
Урадасьць усім былі.
Дарослыя, што ж вы маўчыце,
Нічым вас не закрануць.
А дзеці вашы, глядзіце,
На роднай мове пяюць.
Вы кажаце, вас так вучылі?
Вы кажаце, час быў такі?
Чаму ж вы вусны закрылі?
За вас пяюць юнакі!

*Кролік.*

# Каханьне.



Ты спадзяесься, я цябе кахаю?
І пра цябе я мару уначы?
О не, такі намер ня маю,
І ад мяне ты можаш адпачыць.
Ня будзе тэлефон твой разрывацца,
Лісты ня будзеш доўгія чытаць,
І мной ня будзеш толькі карыстацца,
Бо не хацеў мяне ты пакахаць.
А можа, я табе не падыходжу,
А можа, не такая, як хацеў?
А на двары зноў мелкі сьціплы дожджык
І ліст апошні на зямлю зьляцеў.
Ну дык бывай, бывай, мой мілы дружа,
Наўрад ці калі ўспомніш пра мяне...
А на двары ужо гуляе сьцюжа
І твой малюе вобраз на вакне.

Кр Олік.

# Мы правялі сацыялягічнае апытаньне...

*Паміж сваімі сябрамі мы правялі апытаньне для "Заліка". Кожнаму было зададзена адно й тое ж пытаньне:* ***Што для Вас воля?***

*Вось, што ў нас атрымалася:*

***Міхась:*** (выканаўчы дырэктар ЗБСа): Воля?!О-о-о ! Усё!
***Вольга Ш.:*** (навучэнка): Адчуваньне задаволенасьці...
***Марына А.:*** (навучэнка): Пайшла б зараз з бугуліка дамоў.
***Аленка Б.:*** (ЗБС): Самастойнасьць!!!
***Веся:*** Воля? О-о-о! Гэта воля. Вялізная й неабдымная. Незалежнасьць.
***Ірышка Ж.:*** (навучэнка АМТТ): Воля – калі цябе дапякаюць, а ты можаш узяць і даслаць іх да д'ябла і пры гэтым, каб нічога табе не было.
***Тацянка:*** Імя.
***Алесь:*** Воля – гэта магчымасьць рабіць тое, што я жадаю.
***Алена К.:*** "Воля – гэта вера!"
***Арцём:*** Воля – гэта рэгуліруюшчая сторонка розума.
***Nazgul:*** Воля - гэта чалавек зь вялікай літары!
***Кім:*** Воля мне не патрэбная для прыватнага карыстаньня; воля патрэбная для маёй Радзімы!
***Аляксей:*** (не зразумейшы) Якая воля?!
***Ільля:*** Адчуваньне палёту.
***Янка:*** Меч, які знішчае перашкоды.

# Крыжаванка.




**Па гарызанталі:**
1. Асоба, якая выступае ў судзе ў абарону каго-небудзь, абаронца, заступнік.
2. Спэцыяльнае памяшканьне, у якім мыюцца й парацца.
3. Мейсца, дзе можна знайсьці прытулак.
4. Тое, што й вупраж.
5. Указаньне на памылку, вымова.
6. Лячэбнае мерапрыемства, якое рэкамэндавана лекарам.
7. Мейсца на службе, зьвязанае з выкананьнем пэўных абавязкаў.
8. Самаўладны валадар дзяржавы: цар, кароль і інш.

**Па вертыкалі:**
9. Суполка, таварыства, саюз.
10. Струмень вады, які выцякае з-пад зямлі.
11. Адзін з чатырох накірункаў сьвету.
12. Гарызантальны выступ, які завяршае сьцяну. будынка, або робіцца пад вокнамі, дзьвярмі.
13. Агульны выгляд якой-небудзь мясцовасьці.
14. Фізычны або маральны боль, мучэньне.
15. Кусок тканіны, якім абмотваюць нагу пры абуваньні.
16. У гісторыі вялікі пэрыяд часу, эпоха.

Андрык

**Набліжаецца самае файнае сьвята вясны — 1 красавіка, Дзень сьмеху. Але сьмех смехам, а жарты павінны быць разумнымі. Таму рэдакцыя параіла б вам пратэставацца перад тым, як пачынаць шуткаваць. Ну, дык пачнем!**

ТЭСТ:

# Ці жартаўнік вы?

Абярыце з усіх прапанаваных варыянтаў той, які больш уласьцівы і даспадобы вам. Калі гэта першы – налічыце сабе – 1 бал, калі другі – 2, трэці – 3, ну калі вам ніводны не падабаецца – гэта нуль(0). ПАЧНЕМ?







1. Вы ўбачылі , як ваш сусед пайшоў з торбай для ягад у лес. На двары зіма. Вы падумалі:
1. У наступны раз я зь ім.
2. Патрэбна схадзіць пашукаць грыбы.
3. Пайду па слядох, яны прывядуць у ягаднае мейсца.

2. Нехта выпадкова падыходзіць і просіць вас даць яму 100 рублёў. Вы адкажаце: 1.А рэшту з 1000 дасі?. 2. З наступнай стыпендыі. 3. Дома забыў крэдытную картку.

3. У газэціне вы ўбачылі аб'яву: "Жыхары горада, хутка праверце, хто ў вас дома". Вы пачнеце: 1.Высьвятляць, дык хто ж на самой справе ў вас дома. 2. Я й так ведаю, што ў мяне дома нікога няма, акрамя мяне. 3. Пачнеце лічыць бегаючых па падлозе прусачкоў.

4. Загадайце любую лічбу ад 0 да 1. Вы: 1. Нуль. 2. Адзін. 3. 138564545856/cos 45.




5. Ноччу калі ўсе адпачываюць вы: 1. Чытаеце "Вайна й мір". 2. П'яцё зь сябрамі піва. 3. Гуляеце па даху свайго дома.

6. Ваша любімая тэлеперадача: 1. "Сяльчане". 2. "Землякі". 3. "Пра тое, як гэта было".

7. Вы любіце: 1. Пужаць. 2. Слухаць тэлевізар. 3. Глядзець радыё.

8. Вы марыце быць: 1. Прэзыдэнтам. 2. Намесьнікам прэзыдэнта. 3. Намам нама прэзыдэнта.




Калі ў вас 24 – (жартаўнік) 3-яй ступені, 23 –16 – (жартаўнік) 2-ой ступені, 16 – 8 – такіх патрэбна пашукаць, 8 – 1 – сурёзны жартаўнік, 0 – вам патрэбна паглядзець КВЗ ці Сьмехапанараму.

# Спорт у нашым горадзе.

***Калі ты ведаеш вынікі гарадзкіх спаборніцтваў па футболу і валейболу, то лепей адразу перагарні гэтую старонку.***

**Футбол.**

Адразу бліжэй да справы: у студзені ў спорткомплексе рамонтнага завода прайшлі спаборніцтвы па футболу паміж сярэднімі навучальнымі ўстановамі. Удзельнічала сем камандаў: прадстаўнікі Чыгуначнага тэхнікума, АМТТ, Мэдвучэльні, ПТВ-122, ПТВ-110, ПТВ-101 і ПТВ-39. Цяжкімі былі гульні, шмат было хваляваньняў, шмат спрэчак(не абышлося і без мацюкоў), наездаў на судзьдзю і, на жаль, мала балельшчыкаў. Воплі падтрымкі чуліся ў асноўным ад запасных ігракоў гуляючых камандаў.

Асабліва напружанымі й цікавымі былі гульні паміж камандамі, якія мелі шанец выйсьці ў тройку лепшых. Дык вось, віншуем, хоць і з спазьненьнем (але лепш пазьней, чым раней ці ніколі), каманду Чыгуначнага тэхнікума, якая заняла першае мейсца (малайцы!), ПТВ-110 – другое мейсца, АМТТ – трэцяе.

Асабліва крыўдна было ПТВ-122, якое крышачку не дацягнула да ліку лепшых і заняло чацьвертае мейсца. Але спадзяемся, што за год яны лепей падрыхтуюцца і пакажуць лепшыя вынікі.

Пра астатніх ня будзем нічога казаць, каб не пакрыўдзіць, а пажадаем толькі аднаго: працуйце, працуйце і яшчэ раз працуйце над гульнёй і над сабой.

**Валейбол.**

А ці ведаеш ты, што адбылося з 20-га па 29-ае лютага? Калі ня ведаеш, дык чытай, але лепей адразу набярыся цярплівасьці, бо гэтая частка будзе ня толькі аб хлапечых спаборніцтвах, але і аб дзявоцкіх. Нават ня ведаю, з каго пачаць, ці з моцных ці з прыгожых. Але ж калі менавіта мяне прываблівоюць больш моцныя(і ў той час, канечне, і прыгожыя, разумныя, вясёлыя, цікавыя..., але толькі хлопцы), дык пачну зь іх.

Дык вось, у спорткомплексе "Легмаша" ўва ўжо адзначаную дату адбыліся спаборніцтвы. Для некаторых гэта былі захапляючыя гульні, а для некаторых проста яшчэ адзін тыдзень вакацыяў, але, між тым, у задавальненьні засталіся й тыя й другія.

Крыху напамяну вам вынікі мінулага году: 1-ае мейсца БКУ (Беларускі Камэрцыйны Ўнівэрсытэт), 2-ое мейсца Мэдвучэльня 3-яе мейсца АМТТ. У гэтым годзе сытуацыя амаль не зьмянілася. Ніхто нават не сумняваўся, што самая моцная каманда БКУ зноў зойме, як заўжды, першае мейсца. Перамагчы яе немагчыма. Каб вы бачылі, як яны гуляюць! Прафэсыйна!

У гэтым годзе АМТТ значна абышоў Мэдвучэльню й здолеў заняць другое мейсца. Трэцяе мейсца заняў Чыгуначны тэхнікум. Віншуем вас, хлопцы!

Крыху не дацягнула каманда Педвучэльні й заняла чацьвертае мейсца, але таксама малайцы. Не пашанцавала (а можа проста было патрэбна больш пастарацца) Мэдвучэльні—пятае мейсца. Зусім нічога, на жаль, не атрымалася ў ПТВ-122—апошняе. Ну, нічога, усё яшчэ наперадзе!

А вось цяпер аб прыгожых. У гэтым годзе, як і ў тым, як і заўжды, Мэдвучэльня заняла першае мейсца, Педвучэльня – другое. Заўсёды паміж імі праходзіць складаная і зацяглая гульня. Кожны мячык (шпуляк) на ўліку! Колькі хваляваньняў, крыкаў, піскаў (як заўсёды ў дзяўчынак). Але ж колькі ўжо разоў Педвучэльня ніяк ня можа абысьці Мэдвучэльню.

Амаль такое ж спаборніцтва адбываецца паміж АМТТ і ПТВ-45 за трэцяе мейсца ўжо другі год. У тым годзе замест звычайных дзьвюх гульняў (калі дзьве часткі выйграе адна каманда і трэцюю гуляць ужо немэтазгодна) было тры і перамагло ПТВ-45. І ў гэтым годзе апасьля такой жа напружанай гульні (першую частку выйграла ПТВ-45, другую - АМТТ, трэцюю—ПТВ-45) ізноў перамагло ПТВ-45 і таму заняло трэцяе мейсца, зьмясьціўшы АМТТ на чацьвертае, хаця АМТТ і выйграў ПТВ-39, якое абыграла ПТВ-45.

Вось і ўсе навіны. Хутка адбудуцца спаборніцтвы па баскетболу, а пра гэта ты даведаесься ўжо ў наступным нумары.

Калі цябе цікавяць такія навіны, дык чакай. Можаш і сам заняцца спортам. Хутка стане цёпла, таму **наперад, да здаровага ладу жыцьця!** Займайся спортам!!!

*Веся.*

# Увага: ТВОЙ конкурс.

Рэдакцыя "ЗАЛІК" абвяшчае арыгінальны конкурс. Умовы наступныя. Табе трэба хадзіць па горадзе і выглядаць. А выглядаць трэба вось што—НАДПІСЫ НА СЬЦЕНАХ. Так-так, надпісы, але не звычайныя, бо толькі самыя прыкольныя зь іх патрапяць у нашую газэтку (кажам адразу: маты—гэта ня сьмешна). Значыцца вось што. Хадзіце, шукайце, лістуйце й дасылайце да нас; няхай надпісы, знойдзеныя *вамі, убачаць усе.*

P.S. **Калі ласка, не пішыце на сьценах самі, толькі каб трапіць на нашы старонкі.**

**ЖАДАЕМ ПОСЬПЕХАЎ!!!**

# Смачна есьці!

***У гэтым нумары вашай увазе мы прапануем смачненькі торцік, які мае назву «Птушынае малако». Рэцэпт прынесла Аленка Б.***

Каб сьпекчы ***корж*** патрэбна:
3 яйкі, 1 шклянка цукру, 2 сталовыя лыжкі какавы, 100г маргарына, 0.5 чайнае лыжкі гашанае соды, 1 шклянка мукі.
Усё перамяшаць. Патэльню змазаць. Корж разрэзаць на дзьве паловы. Сярэдзіну змазаць крэмам (пушам), а зьверху заліць глазур"ю (палівай) і астудзіць.

***Крэм(пуш)***: 1.5 сталовай лыжкі манкі, заліць 1 шклянкай халоднага малака і варыць да згусьценьня. 150г масла расьцерці з 0.5 шклянкі цукру. Усё зьмяшаць.

***Глазурь(паліва)***: 5 сталовых лыжак сьмятаны, 5 сталовых лыжак цукру, 2 сталовыя лыжкі какавы. Варыць да кіпеньня.

## *Калі табе ўжо надакучыла наша газэта - прачытай, калі ласка, парачку «плоскіх» показак...*

- ***-Доктар, мне ўжо 80 год, а я ўсё яшчэ за дзеўкамі бегаю…***
  ***- Дык гэта ж вельмі добра!***
  ***- Так, але я ня памятаю навошта!***

- ***-Да якой групы па саюзах і па значэньні адносіцца складаназлучаны сказ: "Бярозы распусьціліся, дубы ж сталі аголеныя"? – спытаў настаўнік.***
  ***- Да эратычнай – упэўнена адказаў вучань.***




## Паважаны наш чытач!

***Просім цябе запоўніць гэтую анкету і даслаць нам на адрас рэдакцыі.***

**Што табе больш спадабалася ў гэтым нумары?**

________________________________________

**Што б ты хацеў убачыць у наступным нумары?**

________________________________________

**Як бы ты жадаў атрымоўваць газэту: па пошце, праз распаўсюджвальнікаў, ці як?**

**(напішы)**__________________________________

**Адрас для допісаў**: 211030 г. Ворша вул. Астроўскага 39-31. E-mail: zbs@orsatbm.lingvo.vitebsk.by.

Газэта "ЗАЛІК" выданьне Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў. Выдаецца на правах рукапісу на беларускай мове.

Надрукавана на абсталяваньні пры падтрымцы Віцебскага аддзяленьня Фонда імя Льва Сапегі: г. Віцебск, пр. Чарняхоўскага, 12-17.

Выдаецца пры падтрымцы USIS (праект ЦМІ "Контур" Віцебск). Набрана й зьвярстана на абсталяваньні [illegible]ГІ "Крывіч" (Ворша).

Рэдакцыйная калегія:
Веся (гал. рэдактар),
Аленка Б. & Міхалка (дызайн),
Ільля (карыкатура).
Наклад 299 асобнікаў.
**Распаўсюджваецца бясплатна.**